# Беларускі Звон

ТЫДНЁВАЯ ЧАСОПІСЬ

АДРЭС РЭДАКЦЫІ І КАНТОРЫ:
Вільня, Біскупская 12 (Wilno, Biskupia 12).
АДЧЫНЕНА што дня, апрача сьвят, ад 11 да 2 гадзіны.

Рукапісы павінны быць напісаны чытальна і толькі на адным баку паперы, з праўдзівым прозьвішчам аўтара і адрэсам (для ведама Рэдакцыі). Няпрынятыя у друк рукапісы назад не вяртаюцца. Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі.

**Цана кожнага нумару 30 м.**
Падпіска на 3 месяцы каштуе 400 м. (з даст. дахаты).
Цана абвестак: перад тэкстам 150 мк., сярод тэксту 200 мк. і на апошняй страніцы 70 мк. за радок пэтыту у 1 шпальт.

Год II. Вільня, Пятніца, 17 лютага 1922 г. № 4 (29)



## РАСПРАВА.

Калі ў ночы на 20 студня г. г. арыштавалі ў Вільні беларускіх і літоўскіх дзеячоў, то незабавам было абвешчана, што над арыштаванымі, адбудзецца суд па абвінавачываньню іх у самых цяжкіх антыдзяржаўных праступках. І мы ўсе, не арыштаваныя, з вялікім зацікаўленьнем чакалі гэтага суда, пэўныя ў тым, што суд, калі ён будзе бесстаронным, вынясе арыштаваным апраўдацельны прыгавор.

А тым часам праходзілі дні, нядзелі... Сьледзтва цягнулася паволі, так што некаторых арыштаваных і зусім не пасьпелі дапрасіць.

Раптам, ні для каго неспадзявана, бяз суда, а часткаю і бяз сьледзтва, ў начы з 5 на 6 студня, арыштаваных узялі ды й вывязьлі з Вільні, не кажучы куды вязуць.

Потым, з афіцыяльнага камунікату мы даведаліся, што арыштаваных беларусаў і літвіноў вывезьлі ў напрамку на Коўну і выпусьцілі ў нэйтральны пас, адкуль высланыя направіліся ў Коўну.

Так скончылася бяспрыкладная гісторыя з арыштамі беларускіх і літоўскіх дзеячоў у Вільні: ні сьледзтва не закончылі, бяз ніякага суда, аб якім так урачыста абвяшчалі раней, арыштаваных прымусам, проціў іх волі, выгналі з бацькаўшчыны незаконным парадкам...

Калі расейскія выняткавыя законы, якімі карыстаецца Сярэдняя Літва, дазваляюць уладам рабіць вобыскі, арыштовываць і садзіць у астрог тых грамадзян, проціў якіх ёсьць улікі ў іх праступнай дзейнасьці, то *няма такіх законаў, якія-б дазвалялі уладам выганяць грамадзян з бацькаўшчыны і высылаць іх за яе граніцы бяз суда*, хіба толькі спосабам, які практыкаваўся ў царскай Расеі г. ё. адміністрацыйным парадкам, „усмотрѣніем" начальства. Слаўныя то былі парадкі, ні якія небудзь, а царскія... Чуць што, тут табе і суд і расправа „по усмотрѣнію".

Аднак, па справядлівасьці кажучы, навет у апошнія гады царскай Расеі, калі там запанавала рэакцыя, мы ня чулі аб чым небудзь падобным на цяперашнія масовыя арышты беларускіх і літоўскіх дзеячоў у Вільні і на спосаб ліквідацыі ўсей справы. Тут мы маем дзела з нечым надзвычайным, што не ўкладаецца ў рамкі і расейскай адміністрацыйнай практыкі. *Людзей выгналі з бацькаўшчыны бяз суда, не закончыўшы сьледства...*

Дзе відана падобнае зьявішча? У якім праўным гаспадарстве так паступаюць?

Толькі там, гдзе няма законаў, або гдзе яны ня выпаўняюцца, магчымы бяспраўныя паступкі ўлады, магчымы ня суд, а расправа бяз суда і сьледзтва, бо *кара бяз суда і сьледзтва есьць звычайная расправа дужэйшага над слабейшым, „по усмотрѣнію" дужэйшага.* Мы кажам „бяз сьледзтва", бо *незакончанае сьледзтва адно і тое самае, што і бяз сьледзтва.*

Якое можа быць параўнаньне сьледзтва спэцыяльных дзяржаўных устаноў і ўпаўнаважненых імі асоб над грамадзянамі краю, сьледзтвам пэдагога над правінаваціўшымся вучнем, а і то прыходзіцца сканстантаваць, што ні водная школа не выганяе вон сваіх вучнеў бяз сьледзтва, ці не закончыўшы сьледзтва над вінавайцамі.

Такім чынам, усякаму павінна быць ясна, што тое, што зроблена з арыштаванымі беларускімі і літоўскімі дзеячамі ёсьць звычайнай расправай і толькі, якая практыкавалася у Царскай Расеі.

*Шаркоускі.*

## Супольная справа.

Высылка з краю 33 беларускіх і літоўскіх дзеячоў уладаю „Сярэдняе Літвы" вызвала абурэньне навет сярод самых-жа палякоў, якія дагэтуль усе, як адзін, вялі барацьбу з „інородцамі", калі толькі апошнія не згаджаліся з тым, чаго хацелі палякі.

Проці высылкі запратэставалі ўсе польскія левыя партыі.

Ведама, справа тут не ў „любові" да „інародцаў": такое „любові" мы дагэтуль нідзе ня бачылі... А справа йдзе аб нешта другое, што роўна небясьпечна як для „інародцаў", так і для самых-жа палякоў.

Высылка беларусаў і літвіноў зроблена бязпраўна: большасьць арыштаваных і высланых ня была дапрошана; высылка загадана няма ведама якой уладай, бо апошняя публічна ня прызналася да гэтага; страшэнна цяжкая кара вызначана грамадзянам краю, бяз судовага разгляду абвінавачаньня іх, і без прыгавору суда.

У гэтым і крыецца ўсё. Факт незаконнасьці паступку ўлады прызналі навет эндэкі ў асобе арганізацыі полек. А тое, што сягоньня зроблена бязпраўна ў адносінах да беларусаў і літвіноў, заўтра тэй-жа ўладаю можа быць зроблена й ў адносінах да нялюбых уладзе польскіх элемэнтаў.

Апошнія гэта вельмі добра зразумелі. І вось гэта сьвядомасьць і прымусіла іх востра выступіць проці гвалту над беларусамі і літвінамі.

Уразуменьне польскімі левымі групамі таго, што нарушэньне ўладаю істнуючых законаў, незалежна ад таго, проці каго яно было скіравана, грозна роўна для ўсіх грамадзян краю—хоць-бы і прыналежачых да „пануючае нацыянальнасьці",—трэба шчыра прывітаць. Праўда, ў гэтым прыпадку заслуга польскіх дэмакратаў не такая ўжо вялікая: навет варшаўскі ўрад прызнаў паступак віленскае ўлады недапусьцімым, і польскі дэлегат ў Вільні—Тупальскі, дырэктар дэпартамэнту ўнутраных спраў Сэнкевіч і пракурор Пржылускі былі прымушаны падацца ў адстаўку. Усё-ж мы з праўдзівай прыемнасьцяй адзначаем тут факт выступленьня польскіх левых груп, бо гэта ня першы і, трэба думаць, не апошні прыпадак бязпраўнага нарушэньня грамадзкае і нацыянальнае свабоды грамадзян, і солідарнасьць прыгнечаных—гэта неабходны варунак удачнага змаганьня з усялякім бязпраўем.

*Ярашэўскі.*

## Хто вінавайца арыштаў?

Гутаркі аб арыштах беларусаў і літвіноў і аб вывазе іх за граніцу Сярэдняй Літвы, у бок Коўны, ня толькі не спыняюцца, а ўсе растуць і шырацца.

Патроху вылазіць на паверх жыцьця сакрэтная, закулісная старана ўсей справы. Можам цяпер сказаць, што арышты ня былі неспадзянкаю для тутэйшых беларускіх кругоў, бо аб іх гаварылі ўжо даўно. Хадзілі чуткі, што арыштуюць чалавек трыста беларусаў. Потым неяк з гутаркамі аб арыштах прыціхлі, а праз неякі час ізноў сталі гаварыць, называючы ўжо лік ня трыста, а сто. Але і йзноў замоўклі. Адклады ў арыштах матывавалі тым, што перад склікан ьнем Сойму арышты не карысны з погляду на міжнародныя адносіны. Сталі чакаць арыштаў пасьля выбараў у Сойм.

І вось мы цяпер яшчэ жывем ужо пасьля арыштаў беларускіх і літоўскіх дзеячоў.

Як адбыліся арышты, па чыйму загаду, з чыйго ведама?

„Хто вінаваты? пытаецца Віленская „Gazeta Krajowa". Варшаўскі Урад, ці можа хто іншы, хто сядзіць у Вільні „на Замку"? „G. K." думае, што вінавайцамі арыштаў зьяўляюцца не варшаўскія палітыкі, а сярэдня-літоўскія „mężowie stanu".

„Адстаўка палк. Тупальскага і Сенкевіча („моцнай рукі" і „слабай галавы"), здаецца нам, сьцьверджае наша прыпушчэньне, што высылка 33 грамадзян краю зьяўляецца сваім асабістым помыслам тых «mężow stanu", якія... і г. д.

„Але правініўся тут і яшчэ нехта, хто праз увесь час гэтай нябывалай гісторыі „нічога ня ведаў", „ня ўмешваўся ца судовых уладаў", „нічога ня мог", потым вельмі плаксіва сьпяваў аб „іншым сваім становішчы" у тэй справе,—той, хто быў тут пастаўлены дзеля сьцеражэньня паважаньня польскай ўлады і некомпромітаваньня яе перад сьветам,—гледжаньня, каб не паглыбляліся нацыянальныя антаганізмы, каб усе грамадзяне краю мелі апеку, права і справед-

